*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 26(463) 5 ЛІПЕНЯ 2000 г.

Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь



Администрация Президента Республики Беларусь

220016 г. Мінск, рэзідэнцыя Прэзідэнта, тэл. 222-37-51, факс 226-06-10 E-mail: contact@president.gov.by

220016 г. Минск, резиденция Президента, тел. 222-37-51, факс 226-06-10 E-mail: contact@president.gov.by

21.06.2000г. № 28/535-122
на №_______ ад __________

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны
220005 г.Мінск
вул.Румянцава, 13

У Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь атрымалі ваш зварот да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Урада Беларусі.

Інфармуем, што Александр Рыгоравіч Лукашэнка выказаў шкадаванне аб выхадзе кіраўніцтва ТБМ з дыялогу грамадска-палітычных сіл Рэспублікі Беларусь.

У адносінах да вашых прапаноў жадаю адзначыць, што лёс беларускай мовы – гэта справа не толькі ТБМ, але і ўсяго грамадства, а таксама яго лідэраў. Гэтую праблему трэба абмяркоўваць усебакова і ўсенародна, таксама як і пытанне аб стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэту.

Удзел у дыялогу лідэраў 112 палітычных і грамадскіх арганізацый, якія прадстаўляюць практычна ўвесь спектар беларускага грамадства, стварае для абмеркавання гэтай важнейшай праблемы найлепшыя ўмовы. А па ініцыятыве не меньш чым трох арганізацый магчыма стварэнне экспертнай групы ў рамках дыялогу грамадска-палітычных сіл.

Мяркуем, што ўдзел у дыялогу адпавядае інтарэсам і рэалізацыі статутных задач вашага таварыства, і выкарыстанне яго аўтарытэту для палітычных дэмаршаў лідэраў апазіцыі, на наш погляд з'яўляецца па меншай меры контрпрадуктыўным.

З павагай,
Памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь С.А. Посахаў.



МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220010, Мінск, вул. Савецкая, 9
тэл. 220-94-10, факс (017) 220-84-83
бюро даведак: тэл. 226-51-59

220005 г.Мінск
вул.Румянцава, 13,
Таварыства беларускай мовы
імя Ф.Скарыны.

20.06.2000г. № 32-06/М-561
на №_______ ад __________

У сувязі з Вашымі пісьмамі Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдня адукацыі паведамляе наступнае.

У Міністэрстве адукацыі сумесна з кіраўніцтвам Мінскага гарадскога ўпраўлення адукацыі праведзена нарада, на якой абмеркаваны пытанні ажыццяўлення моўнай палітыкі ў навучальна-выхаваўчых установах г.Мінска. З мэтай забяспячэння канстатуцыйных правоў грамадзян прынята рашэнне аб неабходнасці пашырэння сеткі навучальна-выхаваўчых устаноў, якія працуюць на беларускай мове, асабліва ў тых мікрараёнах, дзе такія навучальныя ўстановы на сённяшні дзень адсутнічаюць.

Пытанне ўзята на кантроль.

Начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі М.С. Фяськоў

## Створана Рада дырэктараў

Упершыню ў сусветнай гісторыі ў сталіцы Беларусі будзе працаваць адзінаццаць сярэдніх школ з беларускай мовай навучання, ад першага да выпускнога класа. З гэтай нагоды ў сядзібе ТБМ нядаўна сабраліся прадстаўнікі гэтых навучальных установаў, а таксама беларускамоўных коледжаў, ліцэяў і некаторых школ, у якіх маюцца адпаведныя плыні і стварылі Раду дырэктараў беларускіх школ Мінска з мэтай абароны сваіх правоў і каардынацыі сумеснай дзейнасці.

Прысутныя атрымалі шчырую падзяку за мужную і карысную працу дзеля Бацькаўшчыны ад прэзідэнта Таварыства беларускай школы Алеся Лозкі і старшыні Таварыства беларускай мовы Алега Трусава і абмеркавалі магчымасць супольнай працы. Старшынёй Рады адзінагалосна абраны дырэктар СШ №2 Алесь Сядзяка, віцэ-прэзідэнт ТБШ, які з'явіўся галоўным ініцыятарам і надхняльнікам карыснай і плённай сустрэчы.

Удзельнікі падтрымалі цудоўны мінулагодні пачын прысутных рэспубліканскіх грамадскіх арганізацый аб правядзенні конкурсу на лепшую белурускую школу "Захаванне нацыянальных гістарычных і культурных традыцый" і выпрацавалі нямала іншых прапаноў дзеля развіцця сапраўды нацыянальнай школы, якія выклалі ў лісце ад міністра адукацыі.

*Алесь Лозка.*

**Шаноўныя жыхары Менска!**
**Аддавайце сваіх дзяцей у беларускамоўныя школы і класы. За нашай мовай – наша будучыня!**

**БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ШКОЛА-ГІМНАЗІЯ № 111**
**Аб'яўляе набор 1 – 11 класы**
**ПРАПАНУЕМ:**

• Паглыбленае вывучэнне англійскай мовы з падрыхтоўчага класа.
• Другая замежная мова – нямецкая - з 6 класа.
• Вывучэнне па выбары адной з замежных славянскіх моў:
- балгарскай;
- польскай;
- сербскай;
• Фізіка - матэматычны профіль у 10 класе.
• Навучанне асновам камп'ютарнай граматнасці.
• Заняткі ў спартыўным комплексе і басейне.
• Заняткі ў музычных гуртках: фартэпіяна, баян, гармонік, цымбалы, дудка, флейта.

На базе школы-гімназіі працуе ўзорны фальклорны ансамбль "Дударыкі".
Тэл. 245 01 33, 245 21 37.

**ЭЛЕКТРОННЫ ФОРУМ ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ**

Запрашаю далучыцца да новастворанага форуму "Мовазнаўства".
Тэматыка: беларуская мова ў яе лінгвістычным аспекце.
Мова: беларуская (асноўная), дапускаюцца таксама англійская,украінская, польская, расейская.
Тэхнічныя патрабаванні: пішыце лацінкаю, каб вас усе зразумелі.
Каб падпісацца, адпраўце пусты ліст на адрас: movaznaustva-subscribe@egroups.com
Загадзя дзякую.
Mikola mailto:miram@history.minsk.by

## Менская гарадская канферэнцыя ТБМ

21 чэрвеня адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны. Перад дэлегатамі са справаздачай выступіла Леанарда Мухіна. Яна пералічыла, што было зроблена, адзначыла недахопы ў працы гарадской аорнанізацыі.

Дэлегаты аднагалосна зацвердзілі справаздачу сп. Мухінай і па яе просьбе вызвалілі ад абавязкаў старшыні гарадской равды ТБМ. На гэту пасаду была прапанавана кандыдатура Алены Анісім, якую ад імя Сакратарыята падтрымаў старшыня ТБМ А.А.Трусаў. Дэлегаты аднагалосна прагаласавалі "за". У склад новаабранай рады увайшло 15 чалавек, сярод іх усе старшыні раённых арганізацый.

Даведка.

Алена Анісім нарадзілася 28.09.1962 г. на Стаўбцоўшчыне. У 1978 годзе скончыла сярэднюю школу з залатым медалём. Мае вышэйшую філалагічную адукацыю (БДУ, 1983 г.). З 1986 па 1991гг. настаўнічала ў Мінску, з 1991 г. працуе малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. У склад гарадской рады ўвайшла ў сакавіку 1999 г. Была сакратаром, а апошнія некалькі месяцаў і намеснікам старшыні гарадской рады.

Сакратарыят.



**ВІДЭАСЕАНСЫ**
Штосуботу а 18-й гадзіне
**У БЕЛАРУСКІМ ВІДЭАКЛУБЕ:**
Румянцава, 13,
Таварыства Беларускай Мовы
(ля Лінгвістычнага універсітэта)
Тэл. 284-85-11, 213-43-52
Мультфільмы Фантастыка Музыка
Прыгоды Публіцыстыка іншае
**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ**

**ВЫСТАВА**
**Лепшых беларускіх кніжак, аўдыё, відэа**
**ПРАЦУЕ**
**ШТОДНЯ (акрамя серады): 14.30 – 19.00**
**СЕРАДА: 11.00 – 15.00**
**СУБОТА: 17.00 – 19.00**
**НАДЗЕЛЯ: ВЫХАДНЫ.**
**(ВУЛ. Румянцава, 13, Сядзіба ТБМ**

Алесь Петрашкевіч

# ПРАГНОЗ НА ПАСЛЯЗАЎТРА

(Фарс у дзвюх дзеях)

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

## ЭПІЛОГ

***А г і н с к а я.*** Прашу ўстаць, суд ідзе!

Уваходзяць усе ўдзельнікі судовага працэсу, кожны займае сваё месца. Старшыня Калегіі прысяжных Фельчар Кац падыходзіць да старшыні суда С а п е ж а н к і.

***Ф е л ь ч а р К а ц*** (урачыста перадаючы Сапежанцы папку з паперамі). Высокашаноўны старшыня суда! Калегія прысяжных засядацеляў мае гонар перадаць Вам наш вердыкт па разгледжанай справе.

***С а п е ж а н к а*** *(прачытаўшы дакумент, пра сябе, вяртае папку фельчару Кацу. Урачыста).* Слова прадстаўляецца старшыні Калегіі прысяжных засядацеляў спадару Кацу Арону Майсеевічу для абвяшчэння вердыкта па разгледжанай справе.

***А г і н с к а я.*** Прашу ўсіх устаць!

***Ф е л ь ч а р К а ц*** *(урачыста).* Прыняўшы пад увагу ўсе разгледжаныя ў судзе доказы, довады, абставіны справы і нічога, акрамя іх, прысяжныя засядацелі па-свойму ўнутранаму перакананню і сумленню, як і належыць свабодным грамадзянам і справядлівым людзям, на пастаўленыя старшынёй суда пытанні, адказалі наступным чынам: на першае пытанне – ці даказана, што забойства Іванова-Чынгізханова Авангарда Батыевіча Каліноўскім Канстанцінам мела месца, сем прысяжных засядацеляў сказалі: так, забойства мела месца, а пяць сказалі: не, Каліноўскі не забіваў Іванова-Чынгізханова; на другое пытанне – ці даказана, што забойства здзейсніў падсудны Каліноўскі, сем прысяжных адказалі: так, забойства здзейсніў падсудны Каліноўскі, а пяць сказалі: не, не даказана, што Каліноўскі забіваў; на трэцяе пытанне – ці вінаваты падсудны Каліноўскі ў забойстве Іванова-Чынгізханова, сем прысяжных сказалі: так, вінаваты, а пяць сказалі: не, не вінаваты!

На пытанне – ці залугоўвае Каліноўскі спагады, сем прысяжных адказалі: не, не заслугоўвае... *(Адарваўшыся ад тэксту).* Хоць маглі б і апраўдаць небараку, каб пісьменнік у апошнюю хвіліну не пахіснуўся да генерала і папа! Між іншым, асабіста я галасаваў за апраўданне.

***С а п е ж а н к а.*** Гэта зусім не абавязковая інфармацыя.

***Ф е л ь ч а р К а ц.*** Даруйце. *(Перадае папку з вердыктам Агінскай і разам з іншымі прысяжнымі засядацелямі пераходзіць на першы рад крэслаў у зале суда).*

***А п я к і н.*** Я мог бы, канешне, і не галасаваць за смяротны прысуд, але ўсе мы, на жаль, смертныя і я ўжо сёння павінен думаць хто, дзе і як пахавае мяне самога. Над усімі намі "око государево". А яно далёка бачыць...

***Сапежанка.*** У сувязі з тым, што ўдзел падсуднага Канстанціна Каліноўскага ў забойстве Авангарда Батыевмча Іванова-Чынгізханова не даказаны, а ў яго дзеяннях адсутнічае склад злачынства, мной, старшынёй суда Фемідай Сапежанкай, выносіцца апраўдальны прыгавор і прымаецца рашэнне аб вызваленні грамадзяніна Каліноўскага з-пад варты неадкладна.

***С у р о в ы Л і к У л а д ы*** *(і разгублена, і злавесна).* Я далжон сказать, что ета ужэ вабшчэ!..

*Апладысменты ў зале, незадаволенасць часткі прысяжных, хітрая ўсмешка на твары пракурора.*

***С а п е ж а н к а.*** Судовае паседжанне закончана.

*Удзельнікі суда ўстаюць з месц, збіраюцца выходзіць. Канвойныя адмыкаюць клетку. К а с ц ю ш к а праз краты паціскае руку К а л і н о ў с к а м у.*

***М у р а в ь ё в.*** Одну минутку! Прошу конвой не торопиться! Я, прокурор Муравьёв, данной мне властью, вынес постановление о привлечении гражданина Калиновского к уголовной ответственности за неоднократное публичное оскорбление вождя Республики и её символа. Мера пресечения задержанного – содержание под стражей.

*У гербе з'яўляецца Задаволены Лік Улады.*

*Каліноўскі ўзрываецца гучным здаровым смехам над сабой, над судом, над дзяржавай і яе ўладарцамі.*

*Зала зацямняецца і асвятляецца зноў. На сцэне – усе ўдзельнікі судовага фарсу.*

---

# "МАЛАДЗІК" Ігара Лосіка



***У Менску ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор" пабачыла свет кніга паэзіі Ігара Лосіка "Маладзік". Нарадзіўся ў Менску. У 1988 годзе скончыў музычна-педагагічны факультэт Менскага педагагічнага інстытута ім. М. Горкага (цяпер Педуніверсітэт ім. М. Танка). Зараз працуе выкладчыкам музыкі ў менскім педкаледжы №2 імя Максіма Танка.***

### СТУДЗЕНСКАЯ ІДЫЛІЯ

Зіма прыбрала ў гаі чыста.
Маўкліва. Шэпт сівой лазы.
Ва ўтульнай зыбцы і празрыстай
Ссанілі Нёман маразы.

Суседкі-сосны ў спрэчцы часам
Трасуць галлём адна адной
Пакуль зычлівым, мяккім басам
Разважыць іх гілёў габой.

Шалюе дрэвы завіруха,
Як адухоўлены цясляр,
Нібы вясковая крыкуха,
Сарока трызніць у абшар.

Люты гаруе – вясну адчувае,
Крыгі паклаў калуном.
Енчыць завея, пляжыць адчаем
Ветрам расцелены ком.
Слабнуць дзівосы халодныя пацеркаў,
Век адпусціў ім свае.
І прыхаваў у завеістых зацемках
Промень якраз вастрыё.

### САКАВІК

Чутны ледзь акорды кропляў,
Хор свавольных ручаёў,
Сола сакавіцкіх трэляў
З цёплых шпак прынёс краёў.
Распранаюцца нябёсы,
Месяц плача па начах,
І яго буйныя слёзы
Заліваюць стары дах.

### КРАСАВІК

Краскамі руды наліўся поплаў
І бязладдзе абуджае квецень,
Воля гоніць птушак кулем з кодлаў,
З хвалямі жартуе хвацкі вецер.
Лашчыць дрэваў сонных промень верхавіны,
А на ўзгорку лысым гандаль вераб'іны.

### ТРАВЕНЬ

Пазірае раса, як бянтэжыца: "дзе я?"
Супакойвае золка ўзнёслы сюжэт.
Схамянецца таемная раптам надзея
І натаціць паветра шэршня кларнет.
Непрыкмечана поўдзень кранае дзівосы,
Распранаючы вуснамі жытнія косы.

### ЧЭРВЕНЬ

Цешыліся маладзік і зорка,
Ранекам разышліся спакваля.
Золак іх праводзіў з-за пагорка.
І разлука – пекла кавыля.

Знойдзе лёс заўжды выпрабаванне,
Выбраў доўгі чэрвеньскі дзень ім.
Быццам вязням, рэдкае спатканне,
Разаслаўшы пахмурны кілім.

### ЛІПЕНЬ КУПАЛЛЕ

Варажбіт купала ў ночы
Ў летуценнасці дзявочай
Запаліў агонь чакання
І вянок сплёў спадзявання,
Раніцой ледзьве пакрочыў.
Заляцанні і пяшчоту,
Адзіноцтва і гаркоту
Агарнуў падманам, ўпотай,
І ў песні карагоднай
Прыхаваў іх чыстай нотай.

### ЖНІВЕНЬ – МУЗЫКА

Адбівае дождж стаката
Быццам музыкант.
Вецер прахрыпеў дыскантам
Злы, халодны кант.
Лісце шоргатам скрыпічным
Прыгадала зман,
Сплёўшы ў танцы арытмічным
Жнівенскі канкан.

### ВЕРАСЕНЬ

Адлятае лета ў вырай,
Зажурыўся гоман
І відаць ва ўсіх ёсць звычай
Развітацца з домам.
Залатой накрыўся коўдрай
Вераснёвы поплаў.
Любаваўся шэршань астрай
Пад дуэт віёлаў.

### КАСТРЫЧНІК

Зблажэла пажоўклая Свіслач
І вэлюм накінуў чарот.
І кучар агувае роспач
Нібыта сіпаты Фагот.
Чмурэюць гуллівыя хвалі
І човень губляе спакой.
Асклелі рабінаў каралі
Капітуючы хмараў напой.




### ЛІСТАПАД

Вечарэе і слотнае неба,
Тупа ные балотны бугай.
Ашалелага ветра патрэба.
Трэсці голасна стулены гай.
Дрэваў голіць ён рэдкія кудлы,
Пошасць быццам наслаў, занянад.
Нават дуб выглядае сутулым,
Сцяў тарокамі ўсё лістапад.

### СНЕЖАНЬ

Мітуслівы, лёгкі снежань
Апранае восень
І назойлівую казань
З ёй вядзе ля сосен
Хаця й выгляд яго злосны,
Ды спадар прывабны
І кравец ён віртуозны –
Сшыў кажух ёй ладны.

***Ігар Лосік.***

# Вяртанне Літвы – шлях да дзяржаўнасці Бацькаўшчыны.

Этнас (племя, народнасць, нацыя) – асноўны тэрмін у этналогіі і этнаграфіі. Этнасы існуюць аб'ектыўна: узнікаюць, развіваюцца, знікаюць. Наш этнас узнікшы ў III –У стст. н.э. пры складаным узаемадзеянні аўтахтоннага (балцкага) з прышлым (славянскім) насельніцтвам з канечнай асіміляцыяй першага, пераўтварыўся ў народ аб'яднаўшыся ва ўласную дзяржаву (ВКЛ). Народ – этнас які мае дзяржаўнасць або дзяржаву (паводле Брамлея "Нарысы тэорый этнасу"). – Такі этнас з'яўляецца не проста этнасам, а этна-сацыяльным арганізмам.

Звычайна этнас мае этнонім (уласную назву. У т.л. саманазву), а народ – палітонім (палітычную назву дзяржавы). УВялікім Княстве Літоўскім нашым этнонімам быў этнонім ліцвіны, а палітонімам – Літва, што, натуральна, захавалася і ў Рэчы Паспалітай. Забыццё ранейшых этнонімаў і палітоніма ды набыццё новых (беларусы, Беларусь) – вынік расейскай анексіі і акупацыі.

Няма сумневу, што частка нашай Бацькаўшчыны ў часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай называлася Беларусію, Руссю, ды інакш. Аднак гэтыя мікраэтнонімы і мікрапалітонімы не сталі глабальнымі (уласна этнонімамі), г.зн. што ім (беларусы, Беларусь і г.д.) не карысталіся усе (менавіта ўсе!) прадстаўнікі нашага ўсходне-славянскага балтасубстратнага этнасу.

Прааналізуем поўную назву дзяржавы нашых продкаў – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае. Літоўскае – назва мяркую, шматвекавой еўрапейскай дзяржаўніцкай традыцыі, а Рускае – (хутчэй за ўсё) назва належнасці да ўсходнеславянскаму (і ў першую чаргу ўкрінскай яго часткі) макраэтнасу, або, нават, да ўсходнеславянскай супольнасці. Паміж назвамі Літва і Русь (відаць) няма ніякай супярэчнасці, бо адна ды іншая ўзаемадаюцца, узаемапранікаюць, узаемапераплятаюцца гістарычна.

Адсюль, мы мусім быць вернымі гістарычнай традыцыі.

Наша задача – вярнуць этнонім і палітонім Літва разам з макраэтнонімам і палітонімам усходняга славянства Русь (Кіеўская Русь, Маскоўская Русь, Літоўская Русь), бо так звалі нашых продкаў. Літва – сімвал еўрапейскай дзяржаўніцкай традыцыі ў адрозненне ад паўазіяцкай маскоўскай дзяржаўнасці, сімвал далучанасці да Еўропы народаў. Русь – сімвал усходнеславянскасці, еўрапейскай усходнеславянскасці (разам з Украінай) і, увогуле, усходнеславянскасці (разам з Украінай ды Расіяй).

Літва можа быць Вялікаю. Так называючы сваю Бацькаўшчыну мы абвесцім сябе ня толькі нашчадкамі спадчыны ВКЛ, але і падкрэслім панучае становішча менавіта сваёй культурніцкай традыцыі ў ВКЛ (у т.л. славянскасць, а не балцкасць сярэдневечнай ліцвінскай (літоўскай або рускай) пісьмовай літаратурнай моўнай традыцыі), вялікасць сваёй тэорыі ў ВКЛ ды абсалютную перавагу славянскага балтасубстратнага дэмапатэнцыялу у ВКЛ. Малой Літвой Летувісы завуць Каралявецкі край (сучасную Калінінградскую вобласць Расіі). Нарэшце, ёсць назвы краіны са словам Вялікая (е) - Вялікая Брытанія, Вялікае Герцарства Люксембург і г.д. Магчыма на палітычнай Карце свету з'явіцца Вялікая Літва.

Зусім непрыкметнае, часта з каланіяльным адценнем, слова Рэспубліка (Рэспублікі Саюза) у назве нашай дзяржавы заменім (пажадана) на Рэчпаспалітая. Атрымаем не толькі акцэнтацыю рэспубліканскай формы кіравання, але, перш за ўсё, падкрэсленне дэмакратычнасці грамадскага ладу. Больш таго, Рэчпаспалітая стане чыннікам нашай памяці аб Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Ці ж не велічна гучыць: "Я – грамадзянін Рэчыпаспалітай Вялікай Літвы і Русі!"

Могуць быць іншыя варыянты: Рэчпаспалітая Літва, Дзяржава Вялікая Літва, Рэчпаспалітая Вялікая Літва, Рэчпаспалітая Вялікая Літва і Белая Русь і г.д.

Сённяшні крызіс дзяржаўнасці нашай Бацькаўшчыны – у першую чаргу крызіс беларускасці (чытай Белай Рускасці, не – белай расейскасці, а разумей – "северо-западной" каланіяльнасці). З найвялікшым болем у душы, але смела і ўпэўнена канстатую: беларусы як этнонім і Беларусь як палітонім, а таксама беларуская мова як лінгвонім аб'ектыўна на ўзроўні масавай свядомасці большасці насельніцтва (якая не цікавяцца ні этнагенэзам, ні моваю, ні гісторыяй, ні этнакультурай нашага этнасу) успрымаюцца не як нешта зусім асобнае і самастойнае, а як (у лепшым выпадку) частка асноўнага, інакш (у горшым выпадку - неразрыўная частка адзінага – рускага (чытай расейскага, а лічы – маскоўскага).

Згубіўшы наш спрадвечны этнонім і палітонім Літва, ды не набыўшы іншы абсалютна адрозны па гучанні ад этноніма нашых усходніх суседзяў, мы асімілюемся як этнас, г.зн. паступова знікнем увайшоўшы канчаткова ў склад расейцаў.

Вяртанне гістарычных этноніма і палітоніма ліцвіны і Літва – найважнейшая справа. Яго папулярызацыя сярод ліцвінаў (беларусаў) забяспечыць успрыманне саміх сябе самастойным этнасам псіхалагічна. Інакш: "Беларус – это тот же русский (масковец), только белый, или лучший". Дзеля ілюстрацыі ўявім сабе, што існуюць нейкія чорнакітайцы. Ці будуць яны пры падобным этноніме з кітайцамі ўспрымаць сябе як асобны этнас пражыўшы з апошнімі 200 год у адной дзяржаве пры адноснай блізкасці моў ды не валоданні (актыўна) літаратурнай чорнакітайскай мовай (моўная асіміляцыя)? Пытанне рытарычнае.

Вяртанне Літвы – шлях да вяртанне этнічнай свядомасці насельніцтву Бацькаўшчыны (свядомая дэсіміляцыя, або рэліцвінізацыя), мовы (моўныя дэасіміляцыя) і традыцыі палітычнай еўрапейскай дэмакратычнай дзяржаўніцкай традыцыі (дзяржаўніцкая рэлівінізацыя).

Вяртанне Літвы – апошні шанец нашаму старажытнаму усходнеславянскаму балтасубстратнаму этнасу выратавацца і абнавіць сваю гістарычную дзяржаўніцкую традыцыю.

Вяртанне Літвы – шлях да дзяржаўнасці Бацькаўшчыны!

*Віталь Куплевіч, укладальнік газеты "Мястэчка. Першая местачковая газэта на Беларусі", географ, сябра БНФ "Адраджэнне", г. п. Радунь, Воранаўскі раён.*

## Наваградак - першая сталіца ВКЛ



Навградак. 1939 год. Горад ужо вызвалены ад палякаў. Неўзабаве пачнуць вызваляць ад маёмасці і ад саміх наваградцаў.



Адкрыццё ў 1993 годзе на гары Міндоўга ў Наваградку мемарыяльнага каменя ў гонар 740 угодкаў каранацыі Міндоўга. Фота з дассе БелТА.





Фестываль культуры сярэднявечча ў Наваградку. 2000 год. Фота Віктара Талочкі, БелТА.

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 07. 2000 г.
Наклад 2800 асобнікаў. Замова № 1829
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
*Кошт у розніцу:* 40 руб.